1989, з папраўкамі і дапаўненнямі, зробленымі спецыяльна для гэтага выдання.

### *Станіслава Плашчынская.*
### *Успаміны пра Жылку*

*Плашчынская Станіслава* (нар. у 1908 г.) — жонка паэта Язэпа Пушчы.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Уладзімір Жылка. Творы. Мн., 1996, дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] Ф. Купцэвіч мог прыехаць не з Прагі, а з Гомельшчыны, дзе ў 1926 г. працаваў загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды Калінінскага акругкама кампартыі.

### *Яўхім Кіпель.*
### *Апошнія дні Уладзімера Жылкі*

*Кіпель Яўхім* (1895–1969) — настаўнік, навуковец, палітычны і грамадскі дзеяч. супрацоўнік Істытута беларускай культуры, грамадскі дзеяч беларускага замежжа.У 1930 г. арыштаваны і высланы на 5 гадоў у г. Налінск. Пасля адбыцця высылкі арыштаваны паўторна. Быў кіраўнікам навуковага аддзела Беларускай Цэнтральнай Рады, старшыняваў на Другім Усебеларускім кангрэсе ў Мінску (1944). Жыў у ЗША.

Успаміны ўпершыню апублікаваны ў газ. «Беларуская моладзь», 1962, № 18, Нью-Ёрк. Друкуюцца паводле выд.: На суд гісторыі / Укл. Б. Сачанка. Мн., 1994.

### *Вітаўт Кіпель.*
### *Згадка пра «Тастамент»*

*Кіпель Вітаўт* (нар. у 1927 г.) — гісторык, бібліёграф, грамадскі дзеяч; на эміграцыі з 1944 г. Старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1982 г.)

Успаміны друкуюцца ўпершыню. Запісаў Я. Янушкевіч у кастрычніку 1997 г.

### *Мікола Улашчык.*
### *Успаміны (З лістоў да Уладзіміра Калесніка)*

*Улашчык Мікола* (1906–1986) — гісторык, археограф, празаік, перакладчык. Доктар гістарычных навук (1964); у 1930, 1941, 1950 гг. арыштоўваўся, адбываў пакаранне ў Налінску, Марыінску, Златавусце. З 1955 г. жыў у Маскве.

Яго лісты да даследчыка творчасці Ул. Жылкі Уладзіміра Калесніка ўпершыню апублікаваны ў перакладзе на рускую мову ў зб. «Русь — Литва—Беларусь» (Москва, 1997). Друкуюцца паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў сына гісторыка А.М.Улашчыка.

[1] Маецца на ўвазе вокладка зборніка Ул. Жылкі «Вершы», Мн., 1970.

[2] Аповесць А.Вольнага, выйшла ў 1925г.

## *Мікалай Шарсценнікаў. Лёс паэта*

Шарсценнікаў Мікалай — супрацоўнік Уфімскага мединстытута (Расія), прафесар медыцыны. Быў арганізатарам і дырэктарам Уржумскага медыцынскага тэхнікума, дзе некаторы час працаваў Ул. Жылка.

Успаміны друкуюцца паводле газ. «Кировская искра», 1975, 17 ліпеня, дзе ўпершыню апублікаваны. Пераклад з рускай мовы ўкладальніка.

Гэта не адзіная згадка пра Ул. Жылку ў тамтэйшым друку. Паэту, да прыкладу, прысвечаны асобны артыкул у шасцітомнай «Энциклопедии земли Вятской» (1996), напісаны ўраджэнцам Уржума У. В. Мальцавым, які зараз жыве ў Мінску.



# ЗМЕСТ

*Вершы невядомых гадоў*

## ПЕРАКЛАДЫ



## ЛІСТЫ

## ДАДАТАК